# Крычаўскі Праваабарончы Веснік

№ 5 (8) жнівень - верасень 2000 г.




## Усе давольныя

Жыхары в. Чырвоная Буда Крычаўскага раёна выказалі вусную падзяку працаўнікам Крычаўскага ДАІ за аператыўную рэакцыю на калектыўную просьбу паставіць у раёне вёскі знак 1.24 (перагон жывёлы). Праз месяц знак быў пастаўлены ў патрэбным месцы, і цяпер жыхароў не будуць штрафаваць за вымушаны незаконны перагон жывёлы праз шашу.

А ў той час прадстаўнік праваахоўных органаў (на жаль, ён не жадае, каб яго імя гучала ў прэсе) у неафіцыйнай абстаноўцы падзякаваў шматдзетную маці Л.В. Чэпікаву, якая ўжо не адзін год актыўна абараняе правы як свае, так і сваіх дзяцей (апошнім часам з дапамогай Крычаўскага праваабарончага цэнтра). Сваю падзяку міліцыянт матываваў тым, што дзякуючы гэтай жанчыне ён навучыўся паважаць закон і адчуваць адказнасць за свае дзеянні.

*М. Купрыянаў*



## Папярэдзілі...

Крычаўская міжрайпракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння Закона Рэспублікі Беларусь аб сродках масавай інфармацыі Л.В. Свеціку і С.С. Грышыну.

Папярэджанне было вынесена памочнікам міжрайпракурора Г.Ул. Новікавым 14.08.2000 г. Парушэнне пазначанага закона прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафа ў памеры 10 мінімальных заробкаў.

Палічыўшы, што папярэджанне было вынесена беспадставова (так можна вынесці любому грамадзяніну нашай краіны папярэджанне аб недапушчальнасці нават артыкула 166 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (згвалтаванне)) С.С. Грышын напісаў скаргу ў пракуратуру Магілёўскай вобласці з просьбайануляваць гэтае папярэджанне.

*І. Павосцін*

## *Улады супраць уладаў*

Начальнік Клімавіцкага аддзела статыстыкі палічыў, што яго працоўны кабінет апячаталі незаконна, і звярнуўся ў пракуратуру.

Падзеі, пра якія адзначалася ў № 32 (96) газеты «Тыднёвік Магілёўскі» (там пісалі пра зняцце з пасады начальніка Клімавіцкага аддзела статыстыкі Аляксандра Марфеля за «неаднаразовыя сур'ёзныя памылкі ў рабоце») нечакана набылі цікавы зварот. Справа ў тым, што старшыня Клімавіцкага райвыканкама не мае права знімаць і ставіць на пасаду начальнікаў Клімавіцкага аддзела статыстыкі, бо гэты аддзел падпарадкоўваецца непасрэдна Магілёўскаму абласному ўпраўленню статыстыкі.

Такім чынам, Аляксандр Марфель, палічыўшы дзеянні В.В. Канавалава незаконнымі, звярнуўся ў мясцовую

*Працяг на стар. 4*

Актуаліі з архіва БХК

# Асноўныя дакументы, якія датычацца правоў чалавека, выпрацаваныя ў рамках ААН

*Працяг. Пачатак у № 3(6), 4(7)*

## Міжнародныя пакты аб правах чалавека

Часта сцвярджаецца, што асновай ААН-аўскай сістэмы абароны правоў чалавека з'яўляюцца Міжнарожныя пакты аб правах чалавека і наступныя дэтальныя канвенцыі:

***1. Канвенцыя па ліквідацыі ўсялякіх форм расавай дыскрымінацыі 1965 г.***

На падставе гэтай канвенцыі дзяржавы-удзельнікі абавязаны ліквідаваць расавую дыскрымінацыю і прыгнятаць распаўсюджванне ідэй, заснаваных на расавай перавазе і нянавісці. Кантроль за выкананнем палажэнняў канвенцыі здзяйсняецца Камітэтам па ліквідацыі расавай дыскрымінацыі.

***2. Канвенцыя па ліквідацыі ўсялякіх форм дыскрымінацыі жанчын 1979 г.***

Пазначаная канвенцыя накладае на дзяржавы-удзельнікаў абавязак прадпрымаць меры, якія выключаюць дыскрымінацыю жанчын у галіне палітычнага і грамадскага жыцця, адукацыі, працаўладкавання, аховы здароўя, у шлюбе і сям'і, а таксама ўвесці адпаведныя запісы ў заканадаўстве.

Для даследвання прагрэса ў галіне прымянення дадзенай канвенцыі быў зацверджаны Камітэт па ліквідацыі дыскрымінацыі жанчын.

***3. Канвенцыя па папярэджанню катаванняў і бесчалавечнага і прыніжаючага годнасць абыходжання ці пакаранняў 1984 г.***

Накладае на дзяржавы-удзельнікаў абавязак папярэджання катаваннямі і прызнання іх нелегальнымі.

У сілу гэтай канвенцыі быў зацверджаны Камітэт па барацьбе з катаваннямі.

***4. Канвенцыя аб правах дзіцяці 1989 г.***

Абавязвае дзяржавы-удзельнікаў паважаць правы дзяцей і забяспечваць ім адпаведную ахову. Кантроль за выкананнем пастановаў канвенцыі здзяйсняе Камітэт па правах дзіцяці.

*Працяг у наступным нумары*

# Акт незалежнасці Беларусі

*Прыняты Усебеларускім З'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Мінску*

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа беларусі,
— усведамляючы адказнасць за будучыню краіны;
— напамінаючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай — заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;
— грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасцінедапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і без'ядзерная дзяржава.

Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краінаў свету. Мы — за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць — гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

**СВЕДЧЫМ**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі — бела-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня»;

**АБВЯШЧАЕМ**

незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**ПРЫЗНАЕМ**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ**

усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта Незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;

парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

**Праваая бібліятэка**

***Аднойчы так здарыцца, што да Ва прыйдуць міліцыянты, каб пакараць за здзейсненае парушэнне заканадаўства. І што Вы будзеце рабіць? Гэты артыкул крыху раскрывае вочы на несвядомасць людзей ў галіне абароны правоў чалавека і дапамагае зрабіць так, каб чалавека паважалі, нават, калі ён на самой справе злачынца. Бо чалавек ва ўсім свеце — найвышэйшая каштоўнасць дзяржавы.***

*пратаколу), што абаронца яму* ***<u>неабходны з моманту затрымання</u>****. У такім выпадку ўжо максімум праз 24 гадзіны ва ўсіх следчых дзеяннях (допытах і г.д.) будзе прымаць удзел абаронца, у прысутнасці якога следчы ніколі адкрыта не ідзе на парушэнне закона. Тым выпадку, калі затрыманы запіша, што ён хоча мець абаронцу з моманту прад'яўлення абвінавачвання, у следства ёсць 3 сутак да моманту прад'яўлення абвінавачвання і заключэння пад варту, а калі мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту прыменeная да прад'яўлення абвінавачвання (у следчага ёсць такое права ў адпаведнасці з артыкулам 85 КПК*

# Крымінальна-працэсуальны кодэкс

*(вытрымкі і каментары да асобных артыкулаў)*

### Артыкул 49. Удзел абаронцы ў крымінальнай судавытворчасці

Абаронца дапускаецца да ўдзелу з моманту прад'яўлення абвінавачвання.

У выпадку затрымання асобы, падазраванай ў здзяйсненні злачынства, ці прымяненні ў дачыненні да яе меры стрымання, заключэнне пад варту да прад'яўлення абвінавачвання абаронца дапускаецца да ўдзелу ў справе з моманту аб'яўлення асобе пратаколу затрымання альбо пастановы аб прымяненні гэтай меры стрымання, але не пазней 24 гадзінаў з моманту затрымання альбо заключэння пад варту.

Адна і тая ж асоба не абараняе двух падазраваных, абвінавачваных ці падсудных, калі інтарэсы абароны аднаго з іх супярэчаць інтарэсам іншага.

Загадчык юрыдычнай кансультацыі альбо прэзыдыум калегіі адвакатаў абавязаныя неадкладна, але не пазней дваццаці чатырох гадзінаў з моманту звароту, прызначыць адваката для здзяйснення абароны падазраванага, абвінавачванага альбо падсуднага. Загадчык юрыдычнай кансультацыі альбо прэзыдыум калегіі адвакатаў, а таксама орган дазнання, папярэдняга следства, пракурор, суд, у вытворчасці якіх знаходзіцца справа, у парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, маюць права вызваліць падазраванага, абвінавачванага, падсуднага цалкам альбо часткова ад аплаты юрыдычнай дапамогі. У выпадку такога вызвалення загадчыкам юрыдычнай кансультацыі альбо прэзыдыумам калегіі адвакатаў аплата працы абаронцы робіцца за кошт сродкаў калегіі адвакатаў, у іншых выпадках — за кошт бюджэту.

Выдаткі па аплаце працы адвакатаў у парадку, вызначаным Радай Міністраў Рэспублікі Беларусь, адносяцца за кошт бюджэту і ў выпадку, калі адвакат удзельнічаў у дазнанні, папярэднім следстве і ў судзе па прызначэнні. Пакрыванне выдаткаў дзяржавы ў гэтым выпадку можа быць ускладзенае на асуджанага.

*Любы чалавек можа быць затрыманы на 3 сутак. У гэты перыяд ён з'яўляецца падазраваным. Следчыя ніколі не тлумачаць падазраванаму яго права мець абаронцу з моманту затрымання. Падазраванаму заўсёды даюць пазнаёміцца з пратаколам затрымання і адразу ж праводзяць допыт, ён падпісвае пратакол затрымання і пратакол допыту. У стандартным бланку пратакола затрымання і допыту ёсць графа «хачу мець абаронцу з моманту...». Практычна заўсёды следчы прапаноўвае падазраванаму запісаць, што абаронца яму патрабуецца з <u>моманту прад'яўлення абвінавачвання</u>. Падазраваны мае права запісаць у гэтай графе пратаколу (яна падпісваецца асобна ад на тэрмін да 10 сутак), то ў следства ёсць 13 сутак да прад'яўлення абвінавачвання і прыцягнення абаронцы, напрацягу якіх з падазраванага можна «выбіць» любыя паказанні. Пасля гэтыя паказанні кладуцца ў аснову абвінаваўчага заключэння і прысуду. Адмовіцца ад гэтых паказанняў можна на далейшым следстве, альбо ў судзе, але суд, як правіла давярае менавіта гэтым паказанням, а не адмовам.*

*Са зместу часткі 3 каментаванага артыкулу вынікае, што абаронцамі могуць быць блізкія сваякі, але практыка паказвае, што пасля прыняцця ў 1993 годзе закона «Аб адвакатуры» гэтая норма практыкуецца такім чынам, што абаронцамі могуць быць толькі тыя сваякі, якія з'яўляюцца адвакатамі. У выпадку, калі абвінавачваны альбо падазраваны патрабуе дапусціць абаронцам проста блізкага сваяка, то следчы адмовіць. Аднак маюцца прэцэдэнты, калі па справах, якія маюць вялікі грамадскі рэзананс (справа Шарамета, справа Чыгіра), следства вымушанае было дапусціць абаронцамі блізкіх сваякоў.*

### Артыкул 50. Запрашэнне, прызначэнне і замена абаронцы

Абаронца з ліку асобаў, указаных у артыкуле 49 гэтага Кодэксу, запрашаюцца падазраваным, абвінавачваным альбо падсудным, іхнімі законнымі прадстаўнікамі, а таксама іншымі асобамі па даручэнню альбо са згоды падазраванага, абвінавачванага ці падсуднага.

Па просьбе падазраванага, абвінавачванага, падсуднага абаронца прызначаецца дазнаўцам, следчым, судом (суддзёй) праз калегію адвакатаў.

У тых выпадках, калі ўдзел выбранага падазраваным, абвінавачваным ці падсудным абаронцы немагчымы на прцягу больш чым сямідзесяці дзьвух гадзін з моманту заяўлення такога патрабавання, а пры затрыманні — напрацягу 24 гадзін з моманту затрымання, асоба, якая праводзіць дазнанне, следчы, пракурор альбо суд мае права прапанаваць падазраванаму, абвінавачванаму альбо падсуднаму запрасіць іншага абаронцу альбо забяспечваюць ім абаронцу праз юрыдычную кансультацыю.

*Абвінавачваны альбо падазраваны можа патрабаваць допуску канкрэтнага адваката. У тым выпадку, калі адвакат згодны, і сваякі абвінавачванага альбо падазраванаг заключаць з ім пагадненне, следчы абавязаны дапусціць гэтага абаронцу да ўдзелу ў справе. У іншым выпадку следчы выклікае дзяжурнага адваката з раённай юрыдычнай кансультацыі. Пасля сваякі могуць заключыць з ім пагадненне.*

*Працяг у наступным нумары*

## Цікава ведаць...




Нават і ў Бібліі ёсць абмежаванні правоў чалавека, як і ў іншых заканадаўчых дакументах усяго свету:

*«**Божии принципы общественной жизни***

1. *Я Господь, Бог твой, который вывел тебя из дома рабства. Да не будет у тебя других богов пред лицем Моим.*
2. *Не делай себе кумира и никакого изображения того, что на небе вверху, и что на земле внизу, и что в водах ниже земли. Не поклоняйся им и не служи им; ибо Я Господь, Бог твой.*
3. *Не произноси имени Господа, Бога твоего, напрасно; ибо не оставит Господь без наказания того, кто употребляет имя Его напрасно.*
4. *Шесть дней работай, и делай всякие дела твои; А день седьмый — Господу, Богу твоему.*
5. *Почитай отца твоего и матерь твою, как повелел тебе Господь, Бог твой, чтобы продлились дни твои, и чтобы хорошо тебе было на земле.*
6. *Не убивай.*
7. *Не прелюбодействуй.*
8. *Не кради.*
9. *Не произноси ложного свидетельства на ближнего твоего.*
10. *Не желай жены ближнего твоего, и не желай дома ближнего твоего, ни поля его, ни всего того, что есть у ближнего твоего.»*



# Улады супраць уладаў

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

пракуратуру, і, незадаволіўшыся адказам, у Магілёўскую абласную і, урэшце, у Генеральную.

А тым часам, па словах А. Марфеля, В.В. Канавалаў распарадзіўся з 8 верасня 2000 г. выставіць каля будынку Клімавіцкага аддзела статыстыкі пост аховы з мэтай спыніць дапушчэнне А.Н. Марфеля ў адміністрацыйны будынак да канчатковага рашэння пытання Магілёўскім абласным ўпраўленнем статыстыкі аб зняцці яго з пасады (дарэчы, гэты будынак знаходзіцца на балансе абласнога ўпраўлення статыстыкі).

*Сяргей ГРЫШЫН*



## Увага!

Працягваецца *бясплатная падпіска* на выданне «Крычаўскі праваабарончы веснік»!

Жадаючыя падпісацца, пакіньце свой адрас **па тэлефону (02241) 5-66-62** і нашы распаўсюджвальнікі будуць прыносіць выданне да Вас.



Крычаўскі Праваабарончы Веснік

Бюлетэнь выходзіць 1 раз у 2 месяцы.
*Думкі аўтараў артыкулаў могуць не супадаць з думкамі рэдакцыі.*

**Рэдактар** -- Сяргей Грышын
**Адрас:** 213500 г. Крычаў, ГАС-5, а/с 24.
**Тэл./факс:** (02241) 5-66-62.
**E-mail:** Kontakt-centr@mogilev.unibel.by
**Наклад** 299 асобнікаў.